**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.39, 20.50, 15.11;
Віцебск — 5.24, 20.44, 15.20;
Магілёў — 5.28, 20.39, 15.10;
Гомель — 5.32, 20.29, 14.57;
Гродна — 5.57, 21.02, 15.05;
Брэст — 6.01, 20.59, 14.58.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 13 жніўня.

**ІМЯНІНЫ:**
Калініка, Кастуся, Кузьмы, Міхала;
Зузаны

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

11 ЖНІЎНЯ 1992 г.
аўторак, № 158 (21936)


# РОЗГАЛАС

## Б'ЁМ ПА ЦУКРУ КАЎБАСОЙ

**ГОМЕЛЬ. Абласное статыстычнае ўпраўленне падвяло вынікі ўвозу ў вобласць і вывазу з яе прадукцыі за I паўгоддзе. Лічбы, скажам прама, цікавыя.**

Увоз склаў 71,4 працэнта да заключаных дагавораў, а цукру і алею, якіх зараз не хапае, усяго 22,2 і 26,2 працэнта адпаведна. Абавязацельствы ж па вывазу значна вышэйшыя. Яны выкананы на 104,2 працэнта. Прычым большая частка вывезеных тавараў — 53,2 працэнта — гэта прадукты харчавання: мясныя, малочныя і кандытарскія вырабы, соль і маргарын.

**У. ПЕРНІКАЎ.**

## ШУШКЕВІЧ ПРАКАЛОЎСЯ

**З колатай ранай, якая гнаілася, стапы левай нагі дастаўлены ў бальніцу Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч. Знаходзячыся цяпер у адпачынку, кіраўнік рэспублікі займаўся ўзвядзеннем дачы, якую пачаў будаваць яшчэ працуючы ў Белдзяржуніверсітэце. Яркае сонца, жнівеньская спякота ўсыпілі пільнасць старшыні, і ён нечакана наступіў на цвік.**

**Як заявіў у гутарцы з карэспандэнтам «Інтэрфакса» галоўны ўрач урадавай бальніцы Мікалай Макарэвіч, «паслязаўтра Станіслаў Станіслававіч будзе выпісаны, аб яго здароўі не варта хвалявацца. Ужо ў чацвер ён зможа прыняць запланаваную дэлегацыю з Кітая». Паводле слоў доктара, лекі, якія прымае С. Шушкевіч, «пайшлі яму на карысць, арганізм спраўляецца з хваробай».**

**Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ.**
**«Інтэрфакс».**

## НЕ ГОРШ ЗА КАНАДСКІЯ

СЛОНІМ. (**М. Мініч**). Тыя булачкі, крэндзялі, пірагі і іншая здоба, якую мы набываем у крамах, пераважна выпечаны з прывазнога пшанічнага збожжа. А трапляе яно да нас з Украіны, Казахстана і далёкай Канады. Калі мы за белы хлеб разлічваемся «драўлянымі», то дзяржава за замежную пшаніцу выкладвае валюту. і немалую суму.

Вырашыць праблему забеспячэння хлебапякарань рэспублікі мясцовым збожжам спрабуюць вучоныя Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства. Тут ужо выведзены сем сартоў пшаніцы, якія выпрабоўваюцца на палях Беларусі. Тры сарты гэтай культуры вырошчвае і калгас «1 мая» Слонімскага раёна. Паводле папярэдніх падлікаў, для таго, каб цалкам адмовіцца ад прывазнога збожжа, раёну неабходна вырошчваць пшаніцу на дзвюх тысячах гектараў. А пакуль што яна займае толькі трэцюю частку патрэбнай плошчы. Дарэчы, булкі, выпечаныя з беларускай пшаніцы, па смакавых якасцях не адрозніваюцца ад канадскіх.

**Амаль не бывае вольнага часу ў дырэктара саўгаса. Асабліва цяпер, у час жніва. Клопаты ідуць бясконцай чарадой, як марскія хвалі ў час прыбою. Кіраўнік саўгаса «Ушацкі» Ушацкага раёна Уладзімір Мікалаевіч Круглік з раніцы да позняга вечара — на палетках, побач з механізатарамі. Менавіта тут вырашаецца лёс ураджаю. А ён у гаспадарцы не горшы, чым у мінулым годзе. З кожнага гектара ўзялі па 30 цэнтнераў жыта.**

**Тут умеюць клапаціцца аб людзях. Толькі сёлета пабудавана ўжо 35 кватэр. Але ёсць і праблемы. Немагчыма, напрыклад, здаць адкормленых бычкоў. А гэта значыць гаспадарка штодзённа «губляе» шмат кармоў. Вось і даводзіцца дырэктару штодзённа вырашаць безліч усялякіх праблем.**

**Нечакана выпала вольная хвілінка, і Уладзімір Мікалаевіч упершыню за апошнія дні змог удзяліць больш часу сваім дзецям — дачурцы Волечцы і сыну Віталіку. Так што і ў дырэктара бываюць светлыя хвілінкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: У. М. КРУГЛІК гутарыць з камбайнерамі А. Д. ЖАЛЕЙКАМ і А. І. РАДЗІЕУСКІМ; вось яна, светлая хвілінка — разам з дзецьмі.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# РАДЫЁФАКТ

Урад рэспублікі прыняў рашэнне аб удзеле беларускіх вайскоўцаў ва ўборцы ўраджаю на цалінных землях Казахстана. Прадыктавана гэта неабходнасцю папаўнення ў рэспубліцы запасаў збожжа. Сёння па чыгунцы беларускія вайскоўцы адпраўляюцца ў Казахстан. Яны будуць працаваць у Кустанайскай вобласці. Камандзіроўка разлічана на паўтара-два месяцы.

***

**У ходзе сацыялагічнага даследавання ў падраздзяленнях беларускай арміі за беларускую ваенную прысягу выказаліся 80 працэнтаў апытаных. Мяркуецца назначыць днём прыняцця прысягі 31 снежня.**

***

Гэтымі днямі ў Маскве падпісана пагадненне паміж Нацыянальным банкам Беларусі і Цэнтральным банкам Расіі аб арганізацыі разлікаў. Як паведаміў у інтэрв'ю карэспандэнту «Радыёфакта» першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі М. Кузьміч, прадстаўнікі банкаў дамовіліся, што цяпер разлікі паміж Нацыянальным банкам Беларусі і Цэнтральным банкам Расіі будуць ажыццяўляцца па новых карэспандэнцкіх рахунках. Гэта прынцыпова новае адрозненне арганізацыі разлікаў. Справа ў тым, што апошнім часам плацяжы затрымліваліся да месяца і больш. З улікам дагаворанасці плацяжы зараз будуць ажыццяўляцца на працягу тыдня. Беларусь атрымала ад Расіі крэдыт у 40 мільярдаў рублёў. Для параўнання прывядзём такую лічбу: Украіна па аналагічнаму пагадненню змагла дамовіцца толькі на 15 мільярдаў рублёў.

***

**Моцны смерч пранёсся па Маларыцкім раёне. Больш за ўсё пацярпела вёска Велікарыта. Сарваны дзесяткі дахаў з жылых дамоў. Ахвяр, на шчасце, няма. Ідуць аднаўленчыя работы.**

# Пажарныя папярэджваюць: камбайн небяспечны для вашага ўраджаю

Такога не прыпомняць нават работнікі пажарнай аховы з вялікім стажам работы. У апошнія дні ў рэспубліцы згарае ці пашкоджваецца агнём вельмі шмат збожжаўборачных камбайнаў.

Вось толькі факты аднаго дня. У калгасах «Эсмоны» Бялыніцкага, «Кастрычнік» Слаўгарадскага, «Парыжская камуна» Магілёўскага раёнаў ад кароткага замыкання ў электраправодцы загарэліся камбайны «Дон-1500», у саўгасе «Путчына» Бярэзінскага раёна значна пашкоджаны агнём камбайн СК-5 «Ніва». Тут прычынай пажару паслужыла тое, што на вал намоталася салома, якая ад трэння загарэлася. За тры апошнія дні пажары адбыліся на 11 збожжаўборачных камбайнах. Страты вымяраюцца сотнямі тысяч рублёў. Калі мы будзем такімі тэмпамі паліць камбайны, то ў наступным годзе жаць нам, напэўна, давядзецца сярпамі.

У нейкай меры свой уплыў тут аказвае сухое надвор'е. Але ж галоўнае, на наш погляд, у іншым. З-за недахопу запчастак тэхніка сёлета горш, чым у папярэднія гады, была падрыхтавана да жніва. Ды і працоўная дысцыпліна сярод механізатараў вымушае жадаць лепшага. Пазбегнуць жа такіх здарэнняў можна.

Перш за ўсё кіраўнікі калгасаў і саўгасаў павінны патурбавацца аб тым, каб усе прыцягнутыя да ўборкі працаўнікі сяла, у тым ліку і камбайнеры, прайшлі інструктаж па процілажарнай бяспецы. Ніхто не мае права выпусціць збожжаўборачны камбайн у поле, калі ён не забяспечаны вогнетушыцелямі, іншымі сродкамі пажаратушэння. Гэты год па ўмовах надвор'я асаблівы. Вогнетушыцелі ў сувязі з гарачынёй пры ўзгаранні не заўсёды даюць добры эфект, ды і не заўсёды іх прыдбаеш. Але ж у кожнай гаспадарцы маецца прыстасаваная для мэт пажаратушэння тэхніка, якая цяпер амаль не выкарыстоўваецца. Чаму б яе не паставіць у полі, дзе вядзецца жніво, навучыўшы тых жа камбайнераў, як падаваць ваду пры пажары. Нават звычайную бочку на 300—500 літраў тут устанавіць — і то было б нядрэнна.

Часцей за ўсё камбайны загараюцца ад кароткага замыкання. Таму неабходна, не зніжаючы тэмпаў уборкі, знайсці час і адрэгуляваць сістэмы сілкавання, запальвання і змазкі камбайнаў, іншай тэхнікі, якая працуе на жніве, замяніць, дзе трэба, электраправодку. Спецыялісты сельскагаспадарчай вытворчасці, якія адказваюць за пажарную бяспеку ў час уборкі, павінны не толькі самі добра ведаць процілажарныя патрабаванні пры правядзенні гэтай кампаніі, але і патрабаваць іх няўхільнага выканання ад іншых. У жыцці ж нярэдка бывае зусім не так, як хацелася б.

Даволі часта сельскагаспадарчая тэхніка працуе на збожжавай ніве без іскрагасільнікаў, або яны няспраўныя. А гэта таксама адна з найбольш распаўсюджаных прычын пажараў. Вось і сёлета ад іскраў камбайна «Дон-1500» згарэла 15 гектараў ячменю на корані ў калгасе «Стараселле» Крупскага раёна. Дарэчы, такія пажары — не рэдкасць.

На плошчы 10 гектараў быў знішчаны агнём ячмень у саўгасе «Рудзенскі» Пухавіцкага раёна, на 30 гектарах згарэла жыта ў калгасе імя Арджанікідзе Лагойскага раёна. Ды і любы пажар на збожжаўборачным камбайне можа распаўсюдзіцца на каласавыя. Канструкцыя гэтых машын не зусім дасканалая, і таму трэба сачыць за тым, каб не намотвалася салома на дэталі і вузлы, якія круцяцца, бо па гэтай прычыне даволі часта адбываюцца пажары. І падшыпнікі час ад часу неабходна правяраць, ачышчаць ад пылу радыятары рухавікоў.

Трэба абавязкова абкасіць хлебныя палі, і перш за ўсё, тыя, дзе паблізу праходзяць аўтамабільныя дарогі ці чыгунка, каля лесу ці тарфянікаў і ўзараць гэтыя палосы. Ды і там, дзе ўжо ўбралі збожжавыя, звезлі салому, зусім не шкодзіла б правесці ворыва, бо тут таксама нярэдка адбываюцца ўзгаранні, якія распаўсюджваюцца на лясы і тарфянікі, пагражаюць народнагаспадарчым аб'ектам, жыллю і ўчасткам збажыны, дзе яшчэ не праведзена ўборка.

**В. БАГАМ'Я,**
**галоўны спецыяліст ГУПА МУС Беларусі.**

## МАК-92

У адзін дзень, але ў розных месцах былі затрыманы, як відаць, перавозчыкі наркатычнага зелля. На станцыі Слуцк у жыхара Салігорска было канфіскавана 400 г макавай саломкі, а на станцыі Моргань з 3.485 г папаўся жыхар Калінінграда.

## Баранавіцкія дарогі прывядуць у храм

БАРАНАВІЧЫ. Нядаўна ў горадзе створана праваслаўная абшчына, якая цвёрда паставіла перад сабой мэту: пабудаваць «храм у імя святога і благавернага князя Аляксандра Неўскага».

Ужо адкрыты рахунак грашовых ахвяраванняў. Першымі зрабілі ўзнос Свята-Пакроўскі сабор у размеры 50 тысяч рублёў, а таксама духоўныя служачыя, якія ўнеслі для гэтай мэты свой месячны заробак.

Храм збіраюцца будаваць мясцовыя архітэктары.



## ТЭЛЕГРАМЫ Ў НУМАР

**г. Мінск, 41,**
**калектыву рэдакцыі газеты «Звязда»**

**Паважаныя сябры!**

**Шчыра віншую працоўны калектыў газеты «Звязда», яе ветэранаў і маладую журналісцкую змену, пазаштатных актывістаў у сувязі з 75-гадовым юбілеем!**

**«Звязда» — адна са старэйшых беларускіх газет, яна з'яўляецца флагманам перыядычнага друку ў рэспубліцы, сваёй прынцыповай пазіцыяй, праўдзівым адлюстраваннем летапісу жыцця беларускага народа «Звязда» па праву заваявала вялікі аўтарытэт і павагу чытачоў. Жадаю таленавітаму калектыву газеты плённай і натхнёнай працы ў высакароднай справе адраджэння роднай Бацькаўшчыны, далейшых творчых пошукаў, моцнага здароўя, шчасця і ўсяго самага найлепшага.**

**Намеснік Старшыні Саўміна Беларусі**
М. І. ДЗЯМЧУК.

***

**Шаноўныя калегі! Шчыра віншуем вас з юбілеем старэйшай на Беларусі газеты, якую вы маеце гонар выпускаць. У часы, якія мы не выбіраем, вы выбралі «Звязду» і робіце ўсё для таго, каб газета ішла ў нагу з падзеямі. Хай гісторыкі спрачаюцца аб тым, як ацаніць тыя часы, што выбралі нас, але відавочна галоўнае: супрацоўнікі «Звязды» шмат зрабілі і робяць, каб напісаць гісторыю гэтых часоў. Ваш уклад у беларускую журналістыку не зможа аспрэчыць ніхто.**

**І надалей жадаем вастрыні пяра, згуртаванасці, мэтанакіраванасці. Хай заўжды ярка ззяе зорка «Звязда». Хай заўжды свеціць сонца над звяздоўцамі.**

**БЕЛІНФАРМАЎЦЫ.**

***

**У сувязі з 75-годдзем «Звязды» горача і сардэчна віншуем увесь калектыў старэйшай газеты Рэспублікі Беларусь з гэтай знамянальнай падзеяй. Жадаем газеце «Звязда» заўсёды заставацца яркай пуцяводнай зоркай для дзесяткаў тысяч вашых чытачоў.**

**Калектыў ВА «Палімір».**

## ПРАБЛЕМЫ ВЫРАШЫЦЬ ЛАМБАРД?

**Нібыта грыбы ў сырое надвор'е, пачалі ўзнікаць у Мінску першыя беларускія ламбарды. Гэтымі днямі ля стадыёна «Дынама» з'явіўся яшчэ адзін — трэці за апошнія чатыры месяцы.**

Ламбард гэты, як і два яго папярэднікі, амаль нічым не адрозніваецца ад тых, што існавалі ў мінулыя часы. Сістэма такая: наведвальнік прыносіць рэч, у якой не адчувае вострай патрэбы, разам з ацэншчыкам вызначае яе кошт, атрымлівае грошы — і ідзе сабе вольнай птушкай. Калі праз месяц не верне тыя ж грошы — плюс 7 працэнтаў за паслугі, рэч трапляе ў распараджэнне камісійнага магазіна. Бадай, толькі ў гэтым сучасны ламбард не падобны да ранейшага, калі закладзеныя рэчы прадавалі непасрэдна на месцы.

Рэчы ў заклад можна прыносіць любыя, акрамя каштоўных металаў, — менш рызыкі. Ёсць падстава меркаваць, што да канца года ў Мінску з'явіцца не менш дзесятка ламбардаў.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

## МАЛІЦЕСЯ НЕБУ, КАБ ДОЖДЖ ПАЙШОЎ

Зноў пах едкага дыму ў ноч з нядзелі на панядзелак палез у кватэры мінчан. Многія занепакоіліся і пачалі званіць у пажарную ахову.

Але ў сталіцы ў гэтую ноч загаранняў не было зафіксавана. Як растлумачылі становішча ў Белгідрамеце і гарадскім камітэце па экалогіі, прычына гэтага ўдушша ў пажарах, якія палаюць у наваколлі. Пачынаючы ад Міханавіч і да самых Калядзіч у нядзелю ўсё было заслана дымам. Палаюць пажары ў раёне Барысава, Маладзечна, Жодзіна.

І паратунку не будзе, пакуль не патухнуць пажары. А пры такой спякоце спадзявацца на паспяховы зыход барацьбы з імі дарэмна. Усе існуючыя сродкі тут малаэфектыўныя. Патрэбен дождж. Ці хутка ён пойдзе, сказаць цяжка. Сіноптыкі не бяруцца даваць доўгатэрміновыя прагнозы. А ў бліжэйшыя дні яны прадказваюць спякоту. Яшчэ большую. Сёння тэмпература паветра па рэспубліцы паднімецца да 34—36 градусаў. У Мінску — да 34. У наступныя двое сутак яна крышку спадзе — 22—27 градусаў. 12 жніўня па паўднёва-ўсходняй палавіне нават пройдуць кароткачасовыя дажджы. Але гэта яшчэ не паратунак.

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

Barcelona'92

# БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

**Адны — калі атрымліваюць алімпійскія ўзнагароды, другія — калі гэтыя ўзнагароды для іх так і застаюцца марай**

Спартсмены міжнароднага класа — людзі матэрыяльна забяспечаныя. Яны атрымліваюць немалыя грошы (прычым, вельмі часта — у валюце), выступаючы на буйных спаборніцтвах. У шэрагу відаў спорту няблага аплочваюцца сусветныя і еўрапейскія рэкорды... Ды і ў сваіх краінах (у тым ліку ў былым Саюзе ССР) іх не крыўдзяць: чэмпіёны і прызёры Алімпійскіх гульняў у Барселоне, напрыклад, атрымаюць ад 100 да 50 тысяч рублёў, плюс валютныя ўзнагароджанні ад Міжнароднага алімпійскага камітэта, плюс (як стала вядома ў апошнюю мінуту) аўтамабілі ад Масквы...

Не для падбухторвання, як казалі раней, грамадскасці і не дзеля зайздрасці прыводзяцца гэтыя факты. Праца спартсмена — адская напружанасць фізічных і маральных сіл, барацьба з сапернікамі да самага апошняга «не магу»... І становяцца сапраўднымі героямі спорту не ўсе і кожны, хто вырашыў аднойчы заняцца «любімым відам спорту», а — адзінкі: самыя таленавітыя і працавітыя, мужныя і адчайныя, самыя, як сцвярджае галоўны алімпійскі дэвіз— «Дужыя, спрытныя, смелыя!». Такія, як мінскі гімнаст Віталь Шчэрба, які ўзрушыў спартыўны свет шасцю (!) залатымі ўзнагародамі барселонскай чаканкі, ці яшчэ адзін наш прадстаўнік — штангіст Аляксандр Курловіч з Гродна, які ў другі раз запар пацвердзіўшы на Алімпіядзе, што ён — самы моцны чалавек планеты... У некаторых краінах Захаду яны не тое што аўтамабілі — самалёты б атрымалі ва ўласнае карыстанне. І гэта было б натуральным...

Славутыя (чытайце — і багатыя!) спартсмены, аказваецца, самыя «зямныя», звычайныя людзі, не пазбаўленыя ні чалавечых слабасцей, ні эмоцый, ні хваляванняў і перажыванняў... І да сённяшняга дня памятаем мы, як плакала, у трэці раз узнімаючыся на алімпійскі п'едэстал гонару, славутая Ірына Радніна, як, стаўшы на калені, цалаваў барцоўскі дыван у Мюнхене ў 1972 годзе наш непаўторны волат Аляксандр Мядзведзь, пакідаючы яго назаўсёды нераможным... Плачуць і перажываюць атлеты і ў выніку іншых абставін: з-за няўдач і прамашак, прыкрых недарэчнасцей і проста з-за сваёй бездапаможнасці ў той ці іншы момант барацьбы...

У папярэднім нумары «Звязды» мы рызыкнулі выказаць прагноз адносна таго, што ў апошнія дні Гульняў XXV Алімпіяды ў Барселоне багаж прадстаўнікоў незалежнай Беларусі папоўніцца ўзнагародамі самай высокай пробы. І мы не памыліліся... Яшчэ трыма залатымі, адным сярэбраным і двума бронзавымі медалямі парадавалі рэспубліку яе паўнапраўныя прадстаўнікі. Весляры на каноэ Дзмітрый Даўгалёнак з Мінска і Аляксандр Масейкаў з Магілёва выйгралі заезд у лодцы-двойцы на дыстанцыі 500 метраў; баскетбалісткі Ірына Сумнікава і Алена Швайбовіч атрымалі вышэйшыя ўзнагароды ў саставе зборнай СНД; а гандбалісты Андрэй Барбашынскі, Міхаіл Якімовіч і Андрэй Мінеўскі разам з таварышамі па камандзе Садружнасці, якую, дарэчы, вёў да п'едэстала настаўнік мінскага СКА Спартак Пятровіч Міравовіч, таксама не ведалі роўных сабе... Для аматараў статыстыкі паведамім: у фінальных сустрэчах зборная СНД па баскетболу выйграла ў кітаянак — 76:66, а мужчыны-гандбалісты ў драматычным, поўным напружання сапраўдным баі ўзялі верх над чэмпіёнамі свету — спартсменамі Швецыі — 22:20.

«Серабро» Алімпіяды для 24-гадовага Сяргея Смаля з Гомеля — таксама высокая і заслужаная ўзнагарода. Як і «бронза» тэнісісткі Наталлі Зверавай, яшчэ аднаго барца вольнага стылю — Вутара Аруджава...

А вось каму было да слёз крыўдна і балюча за няўдачу, — гэта нашым лёгкаатлету

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## У Беларускім Паазер'і — нацыянальны парк

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кузняцоў зрабіў двухдзённую рабочую паездку ў Віцебскую вобласць.**

**У ходзе паездкі адбыліся сустрэчы з кіраўніцтвам гаспадарак Пастаўскага, Докшыцкага раёнаў, воінскіх часцей. У Браслаўскім раёне на расшыранай нарадзе, у якой прыняў таксама ўдзел старшыня Пастаяннай парламенцкай камісіі па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Барыс Савіцкі, было абмеркавана пытанне аб стварэнні Нацыянальнага парку Беларускага Паазер'я.**

**БЕЛІНФАРМ.**

## Завод — у адпачынку, народ — не весяліцца...

**Учора мінскі завод «Электроніка» на месяц (да 11 верасня) прыпыніў работу ў сувязі са спыненнем прадпрыемстваў, якія пастаўляюць камплектуючыя.**

**Аплата работнікам за вымушаны прастой будзе складаць дзве трэці тарыфнай стаўкі або службовага акладу.**

**Здавалася б, народ павінен радавацца і весяліцца, што абставіны далі магчымасць адпачыць у гэтыя спякотныя дні. Аднак агульны настрой можна вызначыць як суперпесімістычны: па цэхах, аддзелах, службах завода папаўзлі ўпартыя чуткі, што набліжаецца вялікае скарачэнне. Так ці не, дакладна пакуль ніхто не ведае. Але «агульную маёмасць» — заварнікі, кафейнікі, кубкі, талеркі, сподачкі — завадчане ўжо на ўсякі выпадак падзялілі.**

**Уладзя ТАЦЦЯНЧЫК.**

# ЦІ ВЫЖЫВЕ КУРЫЦА, ШТО НЯСЕ ЗАЛАТЫЯ ЯЙКІ?

**Амаль двухгадзінная размова з першым намеснікам генеральнага дырэктара Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Валерыем ШАШКОВЫМ пачалася з пытання, на першы погляд, банальнага, ужо вядомага: Для чаго БНПА была створана! Наўрад ці пра яе добра ведаюць «шырокія слаі насельніцтва».**

— Я б так не сказаў, — не згаджаецца Шашкоў, — паколькі дзейнасць асацыяцыі ўжо даволі шырока вядомая ў рэспубліцы.

Нагадаўшы, што створана БНПА ў пачатку 1990 года і што яе заснавальнікам з'явілася 21 прадпрыемства (у асноўным саюзнага падпарадкавання: гадзіннікавы завод, «Гарызонт», «Інтэграл», аўтазавод, трактарны, завод халадзільнікаў і інш.), ён растлумачыў заканамернасць гэтага кроку тым, што ў апошнія 3—4 гады дрэнна функцыяніравалі ці наогул былі разбураны вертыкальныя структуры вытворчасці.

А я, наслухаўшыся ў парламенце выступленняў прамыслоўцаў, была пераканана, што ўсё правалілася ў пекла пасля Белавежскага пагаднення. Ва ўсякім разе так вынікала з іх палымяных прамоў. Аказваецца, зусім не.

Але калі спахапіліся прамыслоўцы быццам бы своечасова, чаму ж няшмат удалося зрабіць? Спаду вытворчасці не пераадолелі. Красавіцкіх (мінулага года) забастовак рабочых не папярэдзілі.

— Выйшлі не «нашы». «Запалку» паднеслі прадпрыемствы, што не ўваходзяць у асацыяцыю. Гэта, у першую чаргу, электратэхнічны завод імя Казлова. Мы ж яшчэ ў лютым і ў сакавіку зарплату рабочым узнялі. Нашы дырэктары агульную стратэгію тады выпрацавалі, як не дапусціць сацыяльнага выбуху, як рухацца далей, як вырашаць пытанні ўзгоднена...

**— Але ці не ВПК у асноўным тут задаваў і задае тон? І ў той жа БНПА?**

— У нас толькі частка прадпрыемстваў ВПК. Яны цяпер стварылі ў рамках БНПА і галіновую асацыяцыю. У іх на першы план выступаюць пытанні канверсіі і беспрацоўя. Яшчэ адна галіновая асацыяцыя ў рамках агульнай радыёпрамысловасці. Аб'яднанне па інтарэсах закладзена ў статуце нашай асацыяцыі. Але, бадай, самы галоўны яе напрамак—прасоўванне і адстойванне інтарэсаў прамыслоўцаў ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце...

**— Паслухаеш прамыслоўцаў у ВС — б'юцца не на жыццё, а на смерць. Няўжо яшчэ недастаткова напорыстыя?**

— Мы не зусім пакуль задаволены сваім уплывам там. Але вось што ў абавязковым парадку робім: любы законапраект, які датычыцца інтарэсаў прамыслоўцаў, праходзіць экспертызу ў нас. Мы маем цесныя кантакты з трыма камісіямі ВС: Кулічкова, Козіка і знешнеэканамічнай дзейнасці. У нас ёсць права заканадаўчай ініцыятывы, мы ўносілі многія законапраекты, у тым ліку па падаткаабкладанню.

**— Але ж гэтым законам усе незадаволены — і прамыслоўцы, і бізнесмены?**

— На стадыі прапрацоўкі ўсе заўвагі прымаюцца, калі ж даходзіць да абмеркавання і прыняцця ў парламенце... Хоць многія пытанні мы імкнёмся адстойваць, у тым ліку дабіліся зніжэння стаўкі па падаткаабкладанню з 40 да 30 працэнтаў.

**— Самыя сумныя парламенцкія пасяджэнні тыя, на якіх абмяркоўваюцца эканамічныя пытанні. Часта складаецца ўражанне, што дэпутаты нават не разумеюць, пра што гавораць.**

— Ва ўрадзе некалькі больш прафесіяналізму. Я не хачу сказаць, што прафесіяналы цалкам. Але тыя ж Кебіч ці Косцікаў прайшлі вытворчую школу...

**— У асноўным у абкоме...**

— Не, Кебіч у абкоме працаваў недзе гады чатыры. А да гэтага быў генеральным дырэктарам станкабудаўнічага аб'яднання, а Косцікаў — яго намеснікам. Калі мы яго крытыкуем за тое, што ён, можа, забывае патрэбы вытворчасці, прамыслоўцаў, ён падкрэслівае: я таксама прамысловец, работнік вытворчасці. Мы ведаем састаў урада, ведаем, хто ў яго ўваходзіць, што ён у большай ступені прафесіянальны. Хоць адчуваем: там не хапае спецыялістаў, прафесіяналаў — эканамістаў, юрыстаў, палітолагаў, тых, хто добра ведае сусветны вопыт.

Практыкі патрэбны! Не сакрэт, што і састаў нашага ВС мала задавальняе людзей, шырокія слаі насельніцтва. Мы разумеем іх цяжкасці. Можа, у іх не хапае прафесіяналаў, якія маглі б даць ацэнку сітуацыі. Галоўная роля органаў кіравання не толькі стварыць закон, галоўнае — каб ён працаваў. Роля і каштоўнасць кіраўніцкіх структур, каб прасачыць адзін, два, тры, пяць крокаў наперад, да чаго гэта прывядзе. У нас жа такое адчуванне, што яны часцей жывуць імгненнымі клопатамі: вось цяпер стварыць, а там бачна будзе. Мы часта гаворым, і пры абмеркаванні закона аб падаткаабкладанні гаварылі, што вы проста можаце зарэзаць тую курыцу, што нясе вам залатыя яйкі.

Тым не менш, мы да свайго ўрада маем больш даверу, чым да ўрада Гайдара.

**— Чым гэта выклікана?**

— Цяжка сказаць... Непрадказальнасці ў рашэннях «гайдараўцаў» шмат. Трымаюцца яны, у асноўным, за кошт таго, што вельмі шмат рэсурсаў. Краіна такая вялікая, што можа вытрымаць вялікія перапады. А ў нас у рэспубліцы найскладанейшая сітуацыя. Яна па структуры вытворчасці была як зборачны цэх Саюза. Мы вельмі моцна залежым ад Расіі, таму што ўсе сыравінныя рэсурсы ідуць адтуль, а таксама з Казахстана і Украіны ў нейкай ступені.

**— Вы хваліце ўрад, а вясной прамыслоўцы бамбардзіравалі ўрад тэлеграмамі з грознымі патрабаваннямі неадкладнай дапамогі. Чым растлумачыць, што цяпер прыціхлі?**

— Відаць, гэта звязана ўсё ж з перыядам адпачынкаў. Мне здаецца, што ўвосень зноў будзе выбух. Мы пастаянна аналізуем сітуацыю, як ідзе развіццё працэсаў на нашых прадпрыемствах. Цяпер яна крыху згладжана. На многіх прадпрыемствах ідуць у неаплатны, амаль чарговы адпачынак. На іншых, як, напрыклад, на «Інтэграле», працуюць на працягу трэцяга квартала толькі тры тыдні ў месяц. Нехта выйшаў на чатырохдзённы рабочы тыдзень. Увосень, калі не ўдасца скараціць тэмп падзення вытворчасці і захаваць эканамічныя сувязі, сітуацыя абвострыцца.

**— Як вам, вашай асацыяцыі бачыцца далейшае развіццё нашай прамысловасці?**

— Яна павінна павысіць свой тэхнічны і якасны ўзровень. Гэта ў першую чаргу. Раней дзяржава вызначала прыярытэты, прадпрыемствы атрымлівалі сродкі з цэнтралізаваных крыніц. Цяпер, ужо гады чатыры, калі яны перайшлі на большую самастойнасць, пачалі шукаць і за кошт сваіх прыбыткаў. Але апошнія два гады гэтая крыніца амаль абяскровілася. Увесь прыбытак, які зарабляецца прадпрыемствамі, ідзе на фонды заахвочвання і выплату падаткаў. Аднак структурная перабудова неабходна. Прамысловасць трэба павярнуць тварам да спажыўца. Не да нейкага заказчыка ў асобе нейкай арганізацыі, скажам, Дзяржзабеспячэння, як раней бывала.

Трэба правесці канверсію шэрагу прадпрыемстваў, хоць яна павінна і будзе мець працяглы перыяд, бо пытанне ў тым, каб захаваць высокую тэхналогію. Асацыяцыі цяпер даручана падрыхтаваць праект закона аб канверсіі, які будзе ўносіцца на чарговую сесію Вярхоўнага Савета. Трэба заканадаўча вызначыць напрамак, фазы і крыніцы фінансавання канверсіі. Магчыма, што будзе створаны фонд падтрымкі прадпрыемстваў, якія праводзяць яе. Зыходзячы з вызначэння прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі.

Але адначасова трэба, каб была моцная, дакладная і выканаўчая ўлада. І ўплыў вытворчасці праз сістэму падаткаў і фінансавую сістэму банкаўскіх структур. На Захадзе ўся прамысловасць, уся структура гаспадаркі круціцца вакол банка. Вось і мы бачым сваю задачу ў тым, каб нашы банкі змянілі і ўзмацнілі сваю ролю і ўплыў на вытворчасць.

У БНПА таксама ўваходзяць банкі, пакуль чатыры — Беларускі прамыслова - інавацыйны «Прыярбанк», Мінскае гарадское ўпраўленне Ашчаднага банка РБ, Галоўнае ўпраўленне Нацыянальнага банка РБ па г. Мінску, Мінскі камерцыйны банк «Беларусь».

Пра апошні ходзяць усялякія «цёмныя» чуткі, што, зноў жа, створаны на партыйныя грошы. Шашкоў падказвае: «Саветам Міністраў і шэрагам прадпрыемстваў». Як бы там ні было, кіраўнік банка Тамара Віннікава нават на мяне, дылетанта, зрабіла ўражанне сваім выступленнем на апошняй сесіі ВС. Адразу адчуваецца спецыяліст высокага класа. Дзякуй Богу, што такія з'явіліся. Моцным спецыялістам Шашкоў называе і яе намесніка Нікалаеўскага — доўга вучыўся і працаваў у ЗША, а таксама кіраўніка «Прыярбанка» Сяргея Аляксандравіча Касцючэнку, які год вучыўся ў Германіі.

Паводле слоў Шашкова, і Нікалаеўскі, і Касцючэнка выдатна ведаюць мовы, сваю справу, і ў замежных банках іх гатовы хоць цяпер прыняць на работу.

Што датычыцца «Прыярбанка» — камерцыйнага банка БНПА, дык ён, адзначае Шашкоў, уваходзіць па апошняй каціроўцы ў першую сотню банкаў былога Саюза, у рэспубліцы займае трэцяе месца.

**— Але калі мы так падраслі, дык цікава, ці сталі на нас інакш глядзець на Захадзе, бачыць у нас партнёраў?**

— Канешне, пакуль грунтоўных партнёрскіх кантактаў у нас няма. Прычыну я бачу ў тым, што яшчэ недастаткова распрацавана заканадаўчая база. Гарантыяй дзяржавы для заходніх партнёраў павінна быць наступнае: калі яны ўкладуць у нашу эканоміку капіталы, дык заўтра не застануцца «на бабах». Вось на падшыпнікавым заводзе праводзіўся семінар з удзелам ААН. Прыязджалі і прадстаўнікі вядомых шведскіх фірм па вырабу падшыпнікаў. І калі зайшлі дзелавыя перагаворы, мы прапанавалі: укладвайце ваш капітал сюды, мы выпускаем 4,5 мільёна такіх вось падшыпнікаў, у нас буйная сучасная вытворчасць. А яны адказваюць: у нас быў прыклад — у 1934 годзе ў Маскве было наша прадпрыемства, а потым Сталін нацыяналізаваў яго, і мы ні да каго не маглі апеляваць.

На стварэнне невялікіх СП ідуць. Мы і ў структуры асацыяцыі стварылі адно з іх, з французамі, па вытворчасці радыёкампанентаў. Адкрываюцца ў Мінску і магазінчыкі, і кафэ невялікія. Але пакуль не створана дакладная заканадаўчая база, якая сапраўды будзе гарантаваць і ўласнасць укладчыка, да таго часу будзе складана.

**— Валерый Віктаравіч, я думаю, цяпер вашы калегі не шкадуюць, што лёс так склаўся? Назад, да ранейшага рэжыму звароту не будзе?**

— Думаю, што не. Дрэнна толькі, што няма шырокай прапаганды эканамічных рэформ у грамадстве, тлумачэння, што за чым будзе— ні ў Расіі, ні ў нас. Ну што сёння бачыць просты чалавек? Нічога не бачыць. Бо тая сацыяльная аснова, на якой цяпер пачаліся рэформы, зусім не падрыхтавана. Вось я нядаўна з Венгрыі прыехаў. Там цяпер таксама складаная сітуацыя, але венгры яшчэ не забылі рынычную эканоміку, у «новых умовах» пражылі ўсяго сорак гадоў.

Акрамя таго, яны жылі і жывуць зусім у іншым акружэнні (Аўстрыя, Германія), у іншых сацыяльных структурах, і то ім вельмі складана. А ў нас, калі і нацыянальнае расслаенне вельмі вялікае, і непадрыхтаванасць насельніцтва — усё намнога больш складана.

**— Ну, а ці выжыве ўсё ж курыца, што нясе залатыя яйкі? І што зрабіць асацыяцыі, каб яе захаваць?**

— Можа быць, і ў сябе ўнутры асацыяцыі мы зробім нейкую структурную перабудову. Мы рэарганізуем савет па малому бізнесу ў савет па прадпрымальніцтву, г. зн. будзем забяспечваць падтрымку розных форм уласнасці, таму што ўжо працэсы пераходу пачаліся. Але перайсці адразу ў акцыянернае таварыства, як вось Ельцын цяпер аб'явіў, гэта нерэальна, гэта таксама своеасаблівая кампанія. Таму што, каб перайсці, трэба нешта мець у сябе ў кішэнях.

Ну добра, ён кожнаму раздасць невялікі капітал, рабі, як хочаш. Але ёсць розныя формы пераходу ўласнасці. У нас у рэспубліцы — спачатку пераходзім на арэнду, а потым за кошт заробленага прыбытку выкупляем прадпрыемства.

Яшчэ адзін напрамак дзейнасці асацыяцыі — стварэнне яе рэгіянальных структур. Напрыклад, у саюз канфедэрацыі германскіх прамыслоўцаў уваходзіць 39 галіновых і 69 тэрытарыяльных аддзяленняў. Каб была больш моцная апора.

Мы ідзём на падпісанне двухбаковых пагадненняў. Заключылі цяпер дагаворы з асацыяцыямі Расіі, Малдовы, Венгрыі. Цяпер рыхтуемся падпісаць з Украінай.

А ў жніўні ці верасні адбудзецца другі міжнародны кангрэс прамыслоўцаў былога Саюза. Атрымана запрашэнне ад Назарбаева і Краўчука — прапаноўваюць праводзіць у іх. У дружбе з намі ўлады зацікаўлены.

...У час нашай размовы Валерый Віктаравіч не раз падкрэсліваў, што прамыслоўцы ў палітыку не лезуць. Але ўсё наша жыццё сёння — суцэльная палітыка. А ўжо эканоміка — пытанне самае палітычнае. Але, выходзячы з будынка былога гаркома партыі, я падумала: няхай лепш яе робяць практыкі-прагматыкі, чым тэарэтыкі-марксісты. Напэўна, у гэтым выпадку хоць ёсць надзея, што вытрымаем усё ж доўгачасовы шторм і, нарэшце, пойдзем у спакойнае плаванне пад моцнымі ветразямі.

**Галіна АЙЗЕНШТАТ.**
**(Агенцтва «Свободные новости» — БелФАКС).**

Упершыню на Мінскім мотавелазаводзе асвоены выпуск жаночых веласіпедаў. Штомесяц з канвеера прадпрыемства будзе сыходзіць да 15 тысяч сучасна афомленых шматскорасных двухколавых машын. Частка прадукцыі ўжо адпраўлена на экспарт—у Германію, Польшчу, Венгрыю.

**НА ЗДЫМКУ:** жаночыя веласіпеды на зборачным канвееры. У ліку тых, хто ўкладвае ў навінку сваю працу, слесар-зборшчык **Ала БАБКО** (на пярэднім плане).

**Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА. (БЕЛІНФАРМ).**

## ПУНКТ ПОГЛЯДУ

**Паняцце «дэзерцірства» ва ўсім свеце трактуецца як самавольнае пакіданне ваеннаслужачым воінскай часці з мэтай ухілення ад воінскай службы. Але мы, як вядома, ідзём сваім шляхам. А таму ў нас да вызначэння дэзерцірства можна смела дадаць такую фразу: калі яно зроблена не па палітычных, патрыятычных ці якіх-небудзь іншых уважлівых матывах, то... Гэта не жарт. Такія папраўкі даўно ўжо зроблены.**

**Слова «дэзерцір» заўсёды ў нас баяліся як чорт крыжа. Спачатку таму, што з роднай рабоча-сялянскай арміі нават тэарэтычна ніхто ўцякаць не мог. Потым, калі за кожнага дэзерціра даставалася на ўсю катушку не яму, а начальству, выпадкі ўцёкаў проста прыкрывалі. Далей настаў этап усеагульнай «дзедаўшчыны». І нарэшце ўзнялася хваля ўцёкаў на «патрыятычнай» глебе.**

# Тры гісторыі пра дэзерціраў

## ЦІ ЧАМУ ХЛОПЦЫ БЯГУЦЬ З АРМІІ

### ГІСТОРЫЯ ПЕРШАЯ

Па версіі курсанта А. Шчэрбака ён пакінуў часць з-за здзекаў з яго стараслужачых. Чытаў я яго тлумачальную і абураўся: начныя пад'ёмы, адцісканне ад падлогі да немагаты, чыстка ботаў сметанковым маслам. Карацей, поўны «дзедаўскі» набор. А хлопцы з шчэрбакаўскага ўзвода смяюцца: «Казкі, нічога падобнага не было. Служыць ён не хацеў і не хаваў гэтага. Падцягнуцца ні разу не мог. Размовы аб уцёках з часці з усімі заводзіў. Ды вы ў курсанта Карпічэнкі спытайце. Ён з-за Шчэрбака больш за ўсё пацярпеў».

Нават цені хвалявання на твары Карпічэнкі я не ўбачыў.

— Чаму ўцёк? Шчэрбак прапанаваў.

— Зневажалі, білі, як Шчэрбака?

— Не-е... Ды і яго ніхто пальцам не кранаў.

— Навошта ж тады?

У адказ не пачуў нават заезджанага «дамоў захацелася». Вось так. Проста ўцяклі і ўсё. Як з дзіцячага садка. Але там бацькі за падобнае дзягай надаюць ніжэй спіны. У арміі сёння няма нават гэтага: бяжы — не хачу.

### ГІСТОРЫЯ ДРУГАЯ

Служыў у адной з часцей малодшы сяржант І. Куцюруба. Прыгожы хлопец, ростам пад два метры, цэлы сажань у плячах, боксам займаўся. Адправіўся ён у адпачынак і не вярнуўся. Па гарачых слядах накіравалі за сяржантам «Ваньку-ўзводнага». Яму на радзіме Куцюрубы ўручаюць паперу, падпісаную камандзірам часці, якая размешчана побач з домам Куцюрубы: маўляў, гатовыя прыняць уцекача. Падставы? Яны выкладзены ў дзіўным пісьме, адпраўленым на ранейшае месца службы. Што ў ім? Правільна, аб катаваннях старослужачых. Цікавая дэталь. Пісьмо напісана хутчэй за ўсё почыркам маці, а подпіс самога Куцюрубы. Потым, пасля доўгіх разбораў хлопец «раскалоўся»: а што тут такога, усе нармальныя людзі ўжо даўно побач з домам служаць.

Калі хтосьці наіўна мяркуе, што трапіў Куцюруба на «губу», то гэта памылка. Служыць ён хутчэй за ўсё будзе побач з домам. Не ясна толькі, чаму падпалкоўнік А. Шкітыр, добра ведаючы парадак перамяшчэння ваеннаслужачых з часці ў часць ды і аб салдацкіх хітрыках таксама, з гатоўнасцю падпісаў ліпавую паперку-прашэнне, яшчэ і пячатку ў дадатак паставіў?

### ГІСТОРЫЯ ТРЭЦЯЯ

Званок з міністэрства абароны быццам цэбар халоднай вады. Гэта ж трэба, каб малады салдат прасіў бацькоў прывезці гарэлку, якую нахабныя «дэмбелі» патрабавалі для «ўваходжання» ў калектыў? Сам «прасіцель» радавы В. Вашчэнскі аб сваіх просьбах першы раз чуў.

Адкуль тады дым? Аказваецца, адна з родных салдата паскардзілася саслужыўцу палкоўніку запасу: нядрэнна было б перавесці пляменніка бліжэй да дома. А той, не доўга думаючы, знімае тэлефонную трубку, звоніць у міністэрства абароны і расказвае вышэйапісаную гісторыю, маўляў, ведаю, як трэба дзейнічаць.

Гэтыя выпадкі я прывёў не выпадкова. Яны не проста падобныя адзін на аднаго. Гэта ўжо добра адпрацаваная сістэма, пэўная тактыка, выкарыстоўваючы якую, воіны і іх бацькі дабіваюцца сваіх мэт. І любыя нашчадкі адпраўляюцца служыць не туды, куды радзіма загадае, а туды, дзе маці з татам пажадаюць. Без начальніцкіх званкоў, пратэкцыі і хабару. І не мае значэння, што цяпер ужо ў нашай ваеннай прысязе ёсць словы, якія абавязваюць воінаў служыць у любым месцы Беларусі. Некаторыя з іх адносяцца да гэтага абыякава.

Узнікае пытанне: куды глядзяць органы ваеннай юстыцыі? Відаць, яны па-ранейшаму не імкнуцца ўжываць уладу. Ды і адпаведнага закона Рэспублікі Беларусь пакуль што няма. Армія свая ёсць, а закона пра яе няма. Здзіўляцца не трэба, у нас так часта бывае.

Дарэчы, аднаго дэзерціра з цяжкасцю, але ўсё-такі да лавы падсудных давялі. Курсант А. Балдыкоў адсутнічаў у часці амаль месяц. На суд у гарнізонны Дом афіцэраў сабралі ўсіх патэнцыяльных парушальнікаў. Чаго граху таіць, рэкламу «працэсу» зрабілі, накшталт шоу з яго наладзілі, каб іншым навука была. Абвінаваўцам сам гарнізонны пракурор выступіў.

Прыгавор быў «суровы» — два гады ўмоўна. З прыпіскай — вызваліць у зале суда.

Маці Балдыкова цалуе сыночка, па галаве гладзіць. Зала спачатку ашаломленая, а потым радуецца. Аказваецца, можна на месяцы ўцякаць і амаль нічога за гэта не будзе.

Пракурор просіць прабачэння: прабачце, хлопцы, падклаў я вам свінню, што зробіш, суддзі цяпер гуманныя. Дарэчы, у канцы пасяджэння суддзя грозна абвясціў, што так будзе з кожным уцекачом. Зала ў адказ рассмяялася.

Я зусім не крыважэрны, але армія павінна быць арміяй. І размовы аб гуманізацыі, чалавечых каштоўнасцях і іншым не павінны абараняць ад цвёрдай, але справядлівай літары закона. Інакш... Ужо сёння па Беларусі бегаюць ледзь ці не дзесяткі дэзер... прабачце, тых, хто самавольна пакінуў часць. Яны сядзяць па дамах, папіваюць гарэлачку, гуляюць з дзяўчатамі, а нехта за іх служыць. У часці, бачыце, з іх здзекуюцца, вось і ўцяклі. А не пацвердзіцца, усё роўна нічога не зробяць.

**Алег КРАЙСКІ.**

Гэтыя падлеткі прыехалі ў калгас імя Мічурына Слуцкага раёна з розных гарадоў Беларусі правесці летнія канікулы ў сваіх дзядуль і бабуль. Але ў гарачую пару, калі ў сельскіх працаўнікоў клопатаў безліч, не змаглі заставацца без справы. Яны ахвотна дапамагаюць дарослым на збожжатаку, на нарыхтоўцы сена.

Перад выездам на работу ў поле і зрабіў здымак фотакарэспандэнт.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА. (БЕЛІНФАРМ).**

АКТУАЛЬНА!

# «УСІМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ТРЫМАЦЬ АДКАЗ ПЕРАД БОГАМ. МНЕ КРЫХУ РАНЕЙ»

## Споведзь адной з першых хворых СНІДам на Беларусі

**Вера — так назавём гэтую маладую жанчыну — зараз носьбіт віруса СНІДу. За тыя тры гады, як у яе выявілі хваробу, яна ўжо добра ўсвядоміла, што такое быць вірусаносьбітам у нашай краіне. Для свайго ўзросту выглядае вельмі нязвыкла: хударлявая, кволая. «А я ўсё жыццё такая, нават аб фігуры клапаціцца не трэба». «Не, — папраўляе яе ўрач, — калі да нас упершыню прыйшла, такая не была». «Ну, магчыма, — неяк неахвотна згаджаецца, — зараз адчуваю, што не ўсё добра». Здаецца, аб сваёй хваробе яна ведае ўсё, што стала даступна медыкам. Розныя стадыі, праяўленні. І гаворыць пра гэта, на дзіва, лёгка, нібыта хварэе грыпам або ангінай, з адной толькі розніцай: ведае, што не выратуецца. Гледзячы на яе, хочацца паразважаць аб жыццёвым аптымізме. Але ў чым сутнасць аптымізму безнадзейна хворага чалавека: ці не ў тым, каб у астатнія дні ўкласці як мага болей сваёй пяшчоты да жыцця?**

Як малым дзіцяткам у калысцы некалі бачыла шчаслівыя сны, так і цяпер гоніць думкі аб сваім набытым горы. Недзе шчасце заблукала. Нібыта саромеецца яе такой: праклянутай.

— Як вы думаеце, што можна адчуваць у першыя хвіліны, калі толькі табе паведамілі такую навіну? Шок — не зусім тое слова, што трэба. Пачынаеш думаць — адкуль? Але ў мяне думка адразу знайшла правільнае рашэнне. Гэта толькі маё каханне «ўзнагародзіла» мяне. Так я зноў адчула сябе лялькай у руках лёсу.

**— Прабачце, чаму вы гаворыце «ў руках лёсу», калі ведаеце, які чалавек вам дапамог набыць хваробу?**

— Усё гэта адбылося, таму што інакш не магло быць. За каханне заўсёды трэба плаціць... Быў першы муж, які яшчэ перад вяселлем папярэдзіў маіх бацькоў, маўляў, аддаяце сваю дачку, усё адно што жывую хаваеце. Але ён апынуўся там, адкуль не хутка вяртаюцца, пасадзілі — туды яму і дарога. Пасля ўсяго таго кашмару мая сустрэча — як Богам падараваная. Так, ён быў студэнтам з іншай краіны. Але ніводны чалавек не падарыў мне столькі шчасця. Ён добра, па-чалавечы аднёсся да мяне, да майго маленькага сына. Ад роднага бацькі ён столькі дабра не бачыў. А потым яго перавялі ў іншы горад. І я гатова была ездзіць за ім хоць па ўсім Саюзе — тады яшчэ ён існаваў, а пра аналізы на СНІД нават не было і размовы. Ён не быў узорным студэнтам — любіў і ўмеў атрымліваць асалоду ад жыцця. А аднойчы яго выслалі за «абібоцтва».

Ведаю, што зараз спытаеце: як магчыма кахаць іншаземца? А вось магчыма! Ён разумеў мяне. Увогуле, яны ўмеюць паважаць жанчыну. Калі збіраўся ад'язджаць, я ведала — назаўсёды, прапанаваў мне выйсці за яго замуж. Але я засталася. У асноўным з-за сына. Як бы ён там рос? Але тут нават справа ў тым, што проста я аднойчы зразумела: само жыццё нас разводзіць. І прыняла сваё рашэнне.

**— А калі вы даведаліся пра сваю бяду, ці не змяніліся ўспаміны аб ім, ці не страцілі рамантычнай афарбоўкі?**

— Я пра яго зараз нічога не ведаю, дзе ён і як. Але крыўды менавіта на яго няма. Гэта ж лёс, што тут будзеш рабіць? Што было — таго не зменіш, а я б і не жадала змяніць. Зараз трэба думаць аб тым, як жыць далей.

**— Скажыце, Вера, пасля таго, як вас паставілі на ўлік у цэнтры, што змянілася ў вашым жыцці?**

— Па-першае, і гэта самае цяжкае, што давялося перажыць, — агіду акружаючых. Неяк атрымалася, што звесткі аб выніках маіх аналізаў прасачыліся з паліклінікі. Пачалося сапраўднае цкаванне. Давялося кінуць работу. Былая начальніца тэлефанавала, пагражала, зараз працую на новым месцы. У апошні час усё горш сябе адчуваю, часцей на бальнічных. Але на лекі таксама грошы патрэбны, і немалыя.

**— А ці ёсць нешта светлае, што неяк утрымлівае на гэтым свеце?**

— Мая сям'я. Мой цяперашні каханы. Яго адносіны да мяне не змяніліся, калі ён даведаўся аб маім СНІДзе. Зараз з ім бачымся. Калі яму патрэбна мая падтрымка, прыходзіць, доўга можам размаўляць з ім. За сябе не хвалююся.

Падтрымлівае маці. Ёй зараз больш трэба клапаціцца пра маё дзіця. Сын таксама ўсё ведае, здаецца, разумее, што да чаго. Аднойчы бабуля спытала, каго ён больш любіць. Адказаў: «Маму, яе шкада».

**— Што зараз вас больш за ўсё непакоіць?**

— Уласнае існаванне — не, тут ужо ўсё вядома, трэба толькі чакаць. За сына хвалююся. Асабліва імкнуся сачыць за сабой і за ім, каб незнарок з ім чаго не здарылася. Ён мае звычку перад сном бегчы да мяне ў ложак, разам глядзім тэлевізар. Аднойчы апёкся, была адкрытая рана, дык я яму растлумачыла, каб быў пільны і не вельмі да мяне дакранаўся. Ды ён ужо і сам разумее.

**— Ці карыстаецеся вы асобным посудам, прадметамі гігіены?**

— Не. Я ўжо даўно заразілася і ведаю, што вірус бытавым шляхам не перадаецца. Увогуле, вельмі многа часу прабыла ў Маскве, у клініцы прафесара Прохарава, там паглядзела на сапраўдных хворых. Людзі трапляюць з рознымі жыццёвымі сітуацыямі. Вельмі шмат было ВІЧ-інфіцыраваных жанчын, перад якімі паўстала пытанне: ці захоўваць жыццё будучаму дзіцяці? У такіх выпадках ёсць вельмі вялікая рызыка (50 працэнтаў), што дзіця таксама народзіцца з вірусам СНІДу, але толькі праз тры гады, калі яго арганізм вызваліцца ад мацярынскіх антыцелаў, можна сказаць, ці будзе яно здаровае. Але, здаецца, жаданне атрымаць асабістае шчасце, адчуваць сябе сапраўднай жанчынай мацней, таму што многія рашаюцца рызыкнуць.

**— Верагодна, кожны чалавек з вірусам імунадэфіцыту імкнецца неяк процістаяць сваёй хваробе...**

— Так, бачыла я адну жанчыну. Устанавіла сабе рэжым — бег, дыета. Ну, працягне яна лішніх гадоў дзесяць, але хіба гэта жыццё? Навошта сабе ў чымсьці адмаўляць? Тым больш што ўсё адно: чаму быць, таго не мінуць. Я толькі думаю аб тым, каб меней пакутаваць, каб менш клопатаў дастаўляць сваім блізкім. Зараз ужо адчуваю, што хвароба, відаць, пайшла далей, часта хварэю, нават сама калі-нікалі адчуваю, што і памяць ужо не тая, і свядомасць падводзіць. Ведаю, як цяжкахворыя становяцца нібы дзеці малыя, увесь час у бальніцах. Вось тады сын мой можа стаць сіратой пры жывой маці.

**— Як часта вы наведваеце Цэнтр па прафілактыцы СНІДу?**

— Калі адчуваю сябе добра, то нават і ўспамінаць не хочацца, што ён існуе. Калі нешта непакоіць, то сама іду. Тут усе ўрачы, толькі тут нас прымаюць. І толькі тут я магу шукаць дапамогі і ведаю, што нікому не стане вядома мая бяда. Ведаеце, як гэта страшна: жыць і баяцца, што, не дай Божа, пазнаюць на рабоце, столькі сіл было пакладзена, каб знайсці яе. Мне ўжо хапіла і слёз, і адчаю... На Захадзе, дзе ўжо шмат хворых, дзе шмат людзей памерла, дзе даўно вірус распаўсюдзіўся, гэта так не ўспрымаецца. Там зразумелі, што СНІД — сапраўды нацыянальная катастрофа. У нас пакуль адзінкі — і больш за ўсё яны пакутуюць ад неразумення. Цяжка, калі застаешся сам-насам са сваім горам. Многія нават не разумеюць, што зараз СНІД пагражае ўсім, не толькі «групам рызыкі». Яго можна напаткаць нечакана.

**— Вера, каб была магчымасць нешта змяніць у сваім жыцці, ці скарысталі б вы яе?**

— Не, наўрад. Усё роўна выбрала б яго. Гэта адзіны чалавек, які клапаціўся пра мяне. Усё было б так, як цяпер. Я не шкадую аб тым, што было. І прымаю сваё пакаранне. Усім некалі давядзецца трымаць адказ перад Богам. Мне крыху раней...

Іх ненавідзяць. Гоняць. Цкуюць, нібы звяроў на паляванні. Зараз лягчэй выліваць зло на тых, хто і так пакутуе ў жыцці. Але ўсе мы цяпер ахвяры. Толькі яны — ужо вядомыя і зафіксаваныя. Усе іншыя — ахвяры не ў меншай ступені, бо не ведаюць, што бяда стаіць за плячыма кожнага з нас, і не думаюць, што адзіны паратунак пакуль што — у пільнасці.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

